 


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1633) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 30 ЖНІЎНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.


Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

## НА ВЯСЕЛЛІ Ў ДЗЯДЗЬКІКВАСАВАГА ЎНУКА

На хутары за Малынкай, дзе правёў сваё працавітае жыццё Дзядзька Квас, адгрымела першае вяселле, на якім ён ужо не прысутнічаў. Жаніўся ўнук Міхася і Марыі Красоўскіх, сын іх дачкі Шуркі — Андрэй Дмухоўскі.

Любіў яго Дзядзька Квас і фактычна быў яму не толькі дзедам, але і бацькам, бо так склалася, што родны бацька адрокся ад свайго сына, калі яму яшчэ і годзіка не споўнілася. Пайшоў кудысьці і болей да іх не вярнуўся. Толькі адно прозвішча засталося Андрэю ад гэтага нібыта-бацькі. Маці жыла і працавала ў Кнышыне, але ўсе свабодныя дні праводзіла ў родным доме. Для Андрэя гэтая Квасава Малынка сталася сапраўдным домам. Тут ён засвоіў мясцовую, так сказаць Квасаўскую, значыць, вельмі ж сакавітую гаворку, тут знаёміў яго дзядуля з таямніцамі і легендамі навакольных лугоў, палёў, лясоў і ўрочышчаў. Адным словам, Андрэй Дмухоўскі стаўся неад'емнай часткай Квасавай Малынкі. Ведаў яго я ад дзяцінства. Колькі разоў даводзілася мне бываць у Малынцы, заўсёды бачыў я Андрэйку, як бегаў ён за сваім дзядулем. Пасля на Квасавым хутары загаманілі яшчэ іншыя ўнучкі і ўнукі.

*

Андрэй, Квасаў унук, закончыў школу, адслужыў свой тэрмін у арміі, знайшоў сабе працу на беластоцкай мэблевай фабрыцы — і неўзабаве на яго жыццёвым шляху паявілася каханая дзяўчына. Гэта — Аня Семянюк, дачка Надзеі і Міхала, родам з вёскі Белкі.

Аня па прафесіі краўчыха. Працуе ў паланійнай фірме, якая займаецца пашыўкай вопраткі.

— Праца ў нас напружаная, — гаворыць яна, — бо шэф дысцыпліну трымае, але і зарабіць таксама можна нядрэнна.

Ёсць праца, ёсць заробак і ўзаемнае каханне. Дык чаго ж больш трэба маладым для поўнага шчасця?

(Працяг на стар. 5)



Галінка Якімюк з Чыжоў, выпускніца Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы ў 1987 г., салістка „Дубіноў-2".

## СТО ГАДОЎ НАЗАД У ВІЦЕБСКУ...

25 чэрвеня (старога стылю) 1887 нарадзіўся ў Віцебску Марк Шагал. Яго прозвішча шырока вядомае ва ўсім свеце. Многім горад Віцебск нераздзельна спалучаецца з яго імем, і не толькі таму, што якраз там ён нарадзіўся, але перш за ўсё дзякуючы карцінам мастака, на якіх усё яшчэ жывуць крывыя вулачкі, пахіленыя домікі і цыбулістыя купалы віцебскіх царковак. Жывуць у музеях Нью-Йорка, Парыжа, Лондана. Жывуць сваім унутраным жыццём, напоўненым музыкай, паэзіяй і ўспамінамі мінулага.

Марк быў самым старэйшым у мнагадзетнай сям'і беднага яўрэйскага гандляра. Дарога ў мастацтва была яму, відаць, наканавана лёсам. Бацька быў супраць такой прафесіі, прабуючы пасляць сына на навуку ў фотаатэлье. Дзякуючы ўласнай настойлівасці, Марк стаў у канцы канцоў вучнем адзінага пражываючага ў гэтым правінцыяльным горадзе „Северо-западного края" мастака — Юдаля Пэна. Ю. Пэн закончыў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў і ў праграме сваёй „школы" не выходзіў па-за акадэмічна-рэалістычную практыку. Пасля кароткага часу Шагал таксама едзе ў Пецярбург, дзе ў гадах 1907-1910 вучыцца ў вядомага тады Лявона Бакста. Дзякуючы яго падтрымцы таленавіты віцеблянін выязджае ў 1910 г. у Парыж, дзе сустракаецца з мастацкім авангардам усяе Еўропы. Малады жывапісец цікавіцца рознымі новымі напрамкамі, між іншым, знаёміцца з футурыстычным паэтам Апалінэрам. Аднак ужо тады, нягледзячы на розныя ўплывы ў яго творчасці, можна наглядаць фарміраванне характэрнага шагалаўскага ўласнага стылю. Найважнейшай

(Працяг на стар. 5)

## КРЫНШЧЫНА

На Крыншчыне пачаўся працэс памірання вёсак. Першая такая вёска — гэта Ямашы. У свой час жыло ў ёй 27 сем'яў. Спачатку па адной сям'і пачалі яны выязджаць у горад, а пасля ўсё больш людзей стала пераходзіць да працы ў прамысловасці, і ўрэшце на вёсцы застаўся толькі адзін чалавек — Іван Семянюк, сям'я якога таксама апынулася ў Беластоку. У адзіноце вытрымаў толькі два гады. І ўрэшце здаўся і ён: пакінуў свой родны кут, пераехаў да жонкі і дарослых дзяцей у Беласток. Па вёсцы астаўся невялікі след. Растуць далей дрэвы, стаіць яшчэ некалькі будынкаў, не засыпана некалькі калодзежаў.

Такі ж лёс чакае многія вёскі ў Крыноцкай гміне. Ужо да паўпамёршых трэба залічыць такія вёскі, як Старая Грыбоўшчына, Рудакі, Нетупа, Свідзілаўка. У іх жыве крыху сялян-пенсіянераў і па некалькі гаспадароў, якія пакуль што займаюцца сельскагаспадарчай вытворчасцю, але і ў тых няма прадаўжальнікаў сялянскай прафесіі.

У Паўднёвым Востраве, Гуранах, Санніках, Цюмічах, Шацілах, Юраўлянах і іншых вёсках жывуць гаспадары, якім ужо за 50 год. Наогул на Крыншчыне цяпер каля 800 гаспадароў, але гэтая колькасць вельмі нестабільная. Вось, напрыклад, у 1985 годзе 26 гаспадароў здало зямлю дзяржаве ў замен за пенсію, у 1986 — 27, а сёлета зрабіла гэта ўжо 13 сялян, а далейшых 15 афармляюць дакументы на пенсію і рыхтуюцца да перадачы сваёй зямлі гмінным уладам.

І так у вёсках жыве сёння шмат пенсіянераў. Паштальён кожны месяц прыносіць ім належныя грошы, жывуць яны ў сваіх хатах, маюць па кавалку зямлі, нешта гадуюць, каб мець свае прадукты. Яны па-сапраўднаму карыстаюцца з дабрадзействаў народнай улады, якіх не мелі раней старыя людзі на вёсцы, што былі на ласцы і нямласцы сваіх дарослых дзяцей.

Ды дрэнна тое, што няма каму апрацоўваць зямлю і дзяржаўны фонд зямлі ў Крыноцкай гміне налічвае сёння 1316 га і няспынна павялічваецца.

Начальнік гміннай управы ў Крынках **Яўген Касінскі** гаворыць:

— Нашай гміне неабходны будзе яшчэ адзін ПГР, паколькі існуючы не зможа справіцца з вялікімі абшарамі дадатковай зямлі. Але, каб знайсці людзей для працы ў новым ПГРы, неабходна пабудаваць для іх блокі,

(Працяг на стар. 6)

 

 © PDF: Kamunikat.org 2023

# ДУБІНЫ-2/НАРОДНЫЯ/

Усім вядомы эстрадны, вакальна-інструментальны калектыў з Дубіноў. Усім, і найбольш маладым, ён вельмі падабаецца. Гэта пакуль што адзіны беларускі калектытў тыпў „рок-музыка“, або як у нас часта гаворыцца „моцнага удару“, які заваяваў беспрэцэндэнтнае прызнанне слухачоў. Пётр Скепка, стваральнік калектыву, глыбокімі карэннямі звязаны са сваёй зямлёй, з беларускай народнай традыцыяй. Яго непахісная ідэя — ажывіць і ўзвысіць народнае мастацтва як цывілізацыйны элемент сучаснага жыцця беларускамоўнай Беласточчыны. Адтуль і нарадзіліся „Дубіны-2“ — новы калектыў, народны. У яго праграме і танцы, і спеў, і гранне народных інструментаў — гармоніка, скрыпкі. У конкурсе „Беларуская песня-87“ гэты калектыў выступіў з народнымі песнямі і з беларускім дзявочым карагодам. На гармоніку іграў сам Пётр Скепка, а на скрыпцы Пётр Юшкевіч са Збуча. **(вв)**

Фота **С. Грынявіцкага** і **Я. Чэрнякевіч**



**Пётр Юшкевіч у час рэпетыцыі калектыву ў святліцы ў Дубінах.**



**Побач дзяўчаты з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы ў беларускім карагодзе. Выступілі на цэнтральным аглядзе першы раз. Трэба ўсміхацца, а тут сэрца падыходзіць да горла. Але спадабаліся ўсім...**




Праблема, якую я кранаю, дыскусійная. Таму спадзяюся шмат якіх адгалоскаў. Буду рады пачуць іншыя думкі. Перш за ўсё разлічваю на авангард „Нівы“, цяперашні і колішні, а таксама і дзеячоў БГКТ, і на настаўнікаў беларускай мовы, словам, на ўсіх тых, хто называе сябе свядомым беларусам.

На Гайнаўшчыне з'явіліся актывісты, якія заядла арганізоўваюць гурткі Украінскага таварыства ды ўкраінскія калектывы мастацкай самадзейнасці. Нічога дзіўнага ў гэтым не было б, калі б не факт, што ўся іх дзейнасць грунтуецца на базе гурткоў... Беларускага таварыства! Я разумею, што спяваць украінскія песні — гэта яшчэ не прычына дзеля таго, каб біць трывогу. Справа тут, аднак, зусім у чым іншым: нашы паважаныя актывісты Украінскага таварыства кладуць у галовы членам гурткоў тых, што народ тут не беларускі, а... украінскі! Я сам з Кузавы родам, але, колькі ні жыву на свеце, ніколі не чуў пра тое, каб у нашай вёсцы былі ўкраінцы. Усе кузаўцы заўсёды лічылі сябе беларусамі, гаварыў пра гэта і мой нябожчык бацька, які быў членам тутэйшай падпольнай ячэйкі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Памятаю таксама, як арганізаваўся гурток Беларускага таварыства ў Вольцы-Тэрахоўскай. Было гэта ў 1959 годзе. Сабраліся тады ўсе ў хаце Дзмітра Назарука. Доўга гутарылі аб культурна-грамадскай дзейнасці нашага Таварыства. Пасля бурлівай гаворкі, арганізаваўся не толькі гурток БГКТ, але і эстрадная група. І неўзабаве я меў нагоду паехаць з валянскімі самадзейнікамі на фэст у Нарву. Трэба адзначыць, што дуэт Валі Петышук і Марысі Якубіч быў добра прыняты слухачамі. Іх цудоўныя галасы і жартоўныя прыспеўкі надоўга засталіся ў памяці гасцей фэсту. А яшчэ калектывы з вёскі Чаромха, з Дашоў ці Дабрывады? І яны — вынікі нястомнай дзейнасці актывістаў Беларускага таварыства і знаўцаў самадзейнасці, такіх, як Міхась Артышэвіч або Янка Крупа.

А што ж гэта цяпер робіцца тут у нас? У Кузаве арганізуюць гурток Украінскага таварыства, а існуючыя беларускія калектывы мастацкай самадзейнасці ў Дабрывадзе і Чаромсе раптам пачалі выступаць на аглядах мастацкай самадзейнасці Украінскага таварыства, і то ў чаромхаўскім клубе „Калеяж“ у чэрвені г.г. На гэты агляд дабег і калектыў „Аварс“ з Чаромхі-станцыі.

Калектывы з Чаромхі, Рыбалаў і Беластока журы агляду кваліфікавала на вялікі цэнтральны агляд украінскіх калектываў у курортным Сопаце, што над Балтыйскім морам.

Выходзіць, што трэба радавацца, як гэта арганізатары ўкраінскага агляду аж так высока ацанілі нашых самадзейнікаў. Іначай не магу сказаць пра такія калектывы як з Рыбалаў. Кажу: н а ш ы х, бо ж яны — гэта вынікі работы менавіта Беларускага таварыства.

Вярнуся, аднак, да галоўнае тэмы. Даведаўся я, што правадным арганізатарам гурткоў Украінскага таварыства ў Чаромхаўскай і Кляшчэлеўскай гмінах лічыцца Іван Кірызюк, той самы Кірызюк, які ў сваіх карэспандэнцыях на старонках „Нівы“ заклікаў да беларускага патрыятызму і быў, нават, адным з вядучых членаў самога Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і добра памятаем яго палымяныя прамовы на пленумах! Памятаю амаль кожнае слова яго, з якім выступаў ён у час дыскусій. У маёй свядомасці Іван Кірызюк быў самым сур'ёзным і стойкім карэспандэнтам „Нівы“. Аднак жа памыліўся я! Не буду тут рабіць горкіх закідаў яму, даўнейшаму калегу... Кінуў нас? Яго справа. Зрабіўся ўкраінцам! Справа яго сумлення, няхай яно будзе суддзёю яму. І кім толькі беларусы не бываюць!? Але хачу сказаць Кірызюку адну праўду: не разбівай, чалавеча, таго, чаго ты не будаваў! Ну і нашто табе лезці на чужы загон, на гатовае? Чаму ты, Іване Кірызюк, не паехаў у свае родныя Крывяцічы і не арганізоўваў якраз там украінскую дзейнасць? Крывяцічы — так, гэта ж Арлянская гміна, разлеглая тэрыторыя ды густа заселеная, дык чаму ж у ёй, у сваяцкай табе гміне, дзе многія ведаюць цябе ад малога, не праводзіш папулярызацыі ўкраінскай нацыянальнай свядомасці, выкараняючы беларускую? Здавалася б, на здаровы розум, што трэба пачынаць было табе ад роднае старонкі... Але не.

Ты разыгрываеш усё па-цваніцку: намаўляеш, так сказаць, ужо гатовыя калектывы, даўно кімсьці іншым створаныя, і ладзіш ім агляд у Чаромсе, свой агляд. Ну, а ці ж так робіць чалавек, у якога хоць трохі гонару засталося? Па чужое рукі працягваць?

Я памятаю сваю маладосць, сяброў і сяброўак, спевы і гулянкі, смехі і жарты, гульні „ў рагулькі“ перад Сёмухай, хату Смыкоў, у якой адбываліся найбольшыя зборышчы. Цяпер з мяне ўжо пажылы чалавек і таму бачу, як да непазнакі змянілася атмасфера і быт людзей, прапала кудысьці колішняя весялосць, народнасць побыту, усе тыя „рагулькі“ і спевы. Змяняецца час, на жаль, не ў карысць

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 2)




„Ніве“ пра ўсякую-ўсячыну адтуль, але тае дзікай розніцы паміж доларамі ў нас і ў іх чамусьці не паспеў заўважыць, сказаць чытачу пра гэтую важную праўду.

Мы не працавітыя? А паспрабуй ты не быць працавітым на фабрыцы ці ў гуце, калі машына твая вурчыць поўным ходам або расплаўленае жалеза плыве з гутніцкай печы! Паспрабуй ты стаяць, заклаўшы рукі. Аўрора піша пра багатыя сметнікі (дабра ўсякага навыкідвалі нібы). Гэта мяне здзівіла! Я някепска ведаю Польшчу, але нідзе і нічога падобнага не бачыў. Такое, можа, здарыцца ў нейкім глухім закутку, у якім жывуць людзі, у якіх розуму мала? Бывае і такое, напэўна.

Я, праўда, не ведаю вёскі, не ведаю нораваў Беластока, у якім жывуць людзі, „з адною нагою яшчэ ў вёсцы“, гэта значыць: дапамагаюць ім старыя бацькі на гаспадарках гібеючых. Аднак, у тыповым горадзе, без гэтай „вясковай нагі“ з сабою, якая падкормлівае яго, няма гультайства як грамадска істотнай з'явы. Людзі працуюць, і то цяжка, Дзед Кастусь, вельмі ж цяжка, зусім не лягчэй, чым у Японіі. Цяпер такі ўклад жыцця, што не працаваць цяжка ўжо немагчыма. Магчыма так тады толькі, калі ты сам згодны жыць абы-як, з хлебам ды малаком і спаць на барахле якім, замест прыстойнага тапчана. Чаму не, ёсць такія, у якіх філасофія: лепей бедна жыць буду, але лягчэй. Іх справа. Такія філосафы ніколі не пераважалі ў грамадстве, у аніякі гістарычны перыяд, хоць заўсёды яны былі, і ў вёсках былі такія „кніжнікі“, нярэдка з добрымі, але самімі імі запушчанымі гаспадаркамі.

Я супроць прапаганды неўдалоцтва і гультайства, супроць вобраза беларуса, як самага разлезлага і недастойнага чалавека Еўропы. Некалі ён такім быў, бо мусіў, бо не меў іншага выйсця, не меў як разгарнуцца. Але не цяпер, не цяпер, сябры карэспандэнты „Нівы“!

**Рышард Бутайла**

## МЫ НЕ ВЫРАДЗІМСЯ!

У „Ніве“ ад 19 ліпеня прачытаў я артыкул Аляксандра Анташэвіча „Усё, але толькі не песімізм!“ Гэта пераказ і каментарый пленума Саюза пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся ў чэрвені ў Мінску.

Закранута была дужа важная праблема заняпаду грамадскай значнасці, усенароднай папулярнасці беларускай мовы і культуры, якую сапхнулі на абочыну анахранізму. Гэта адступленне ад ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі і будаўніцтва нацыянальных дзяржаваў у рамках Саюза ССР. Гаворачы так, маю на думцы перыяд сталінізму перш за ўсё. Цяпер гэта паправіць будзе надта цяжка, а ў некаторых пытаннях, можа, і не ўчасна... Бываюць такія зніштажэнні, якія па-

(Працяг на стар. 5)



 © PDF: Kamunikat.org 2023

 

**МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ**

# РОКАБІЛІ ЦІ БЕЛАРОКІ?

Тэзіс аб магчымасці нацыянальных формаў у рокмузыцы ўсё яшчэ сям-там аспрэчваецца, хаця даўно ўжо трывала вызначыліся англійскі, венгерскі, польскі рок, прабіваецца праз нажніцы камерыйнасці характэрны фінскі, грэчаскі рок і г.д.

Якіх бы мы ні былі поглядаў, але нікому не зазорна звярнуцца да ўсеабдымнай філасофскай скарбонкі выдатнага мысліцеля XX стагоддзя У. І. Леніна. Дык вось ён першым прызнакам нацыі называў яе мову. І нават звужаючы тэму да прыкмет нацыянальнай культуры, то і тут Ільіч называў мову адным з асноўных носьбітаў нацыянальнай культуры.

Далучаючыся да Ільічовай думкі, хацелася б падкрэсліць уплывовы фактар мовы на фарміраванне музычнай структуры беларускага рока (бо рок жа — з'ява музычная, а не літаратурная). Справа ў тым, што сама па сабе кожная мова мае ўласцівую толькі ёй мелодыку, дух і, сапраўды, дастаткова спалучыць нават пэўную экзатычную з'яву мастацтва з нацыянальнай мовай, як нараджаецца пачатак чагосьці своеасаблівага. І ўвогуле, у старажытнай беларускай культуры ёсць дастатковы патэнцыял, каб па-свойму пераасэнсаваць і засвоіць нават не нашыя здабыткі, як гэта зрабіла, скажам, з балетам ці сімфанічнай музыкай руская культура, альбо... Памятаеце багдановічаўскае:

„І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька"?..

Менавіта аб слуцкіх залататканых паясах, а не аб персідскіх грымела па ўсёй Еўропе слава ў XVIII стагоддзі. Дык няўжо цяпер мы так духоўна загібелі, што можам толькі спажываць нажытое, а не ўзбагачацца новым?! Чаму не здольны паўнацэнна гучаць беларускі рок?

Ды не. Здольны! Толькі прыслухоўвацца трэба не да голага „адлюстравання" чужых веянняў у нашай культуры (што пратэжыруе Падбярэзскі), а скажам, да аўтаграфічнага „Беларускага рок-н-рола" групы „Юрась Братчык":

Робім самі крок у рок:
Апантаны і гарачы,
Як „Лявоніха" у нас
Ці ў рытме „Полькі-Янкі",
Што танцуе ўвесь народ.

Такія ж аўтографы пакідаюць і іншыя групы мінскага рок-клуба „Няміга", дзе ў дыскусіях, спрэчках і апантаным творчым працэсе нараджаецца сапраўды новая — беларуская — плынь у року, падтрыманая і ў іншых гарадах Беларусі.

Хтосьці засумняваецца ў слушнасці гэтага кроку ў рок: няўжо, маўляў, задача нацыянальных культур толькі ў засваенні чужых здабыткаў? Але: па-першае, узаемазасваенне — гэта ж адзін са шляхоў развіцця кожнай культуры; па-другое, што датычыць канкрэтна рока, раз ужо з'явілася беларуская рок-публіка, то адмоўчванне нашай культуры ад яе стыхіі будзе самаізаляцыяй, адштурхваннем многіх маладых хлапцоў і дзяўчат пад уплыў чужых культур.

Будзе? Ужо не будзе, бо рух беларускага рока з'явіўся і ўражвае сваёй жыццяздольнасцю. Як і трэ было чакаць, ён не спыніўся на „дзіцячай" ідэі „рока па-беларуску", а пайшоў глыбей. Лідэры беларускага рока („Магістрат", „Мроя", „Бонда", „Пошук", „Юрась Братчык"...) ад асваення нацыянальных сродкаў перайшлі ўжо да адпаведнай тэмы — нацыянальнай свядомасці, захавання культуры — вельмі характэрнай і для лепшых узораў нашай літаратуры — Купалы, Гаруна, Багдановіча, Караткевіча. І што прыемна, беларускі рок звязвае сябе з усім нашым мастацтвам не толькі агульнасцю мовы ці тэмы, але і паспяхова распрацоўвае сабе нацыянальны імідж: звярніце ўвагу хоць бы на гістарычнае ці літаратурнае паходжанне назваў рок-груп. А гэта яшчэ раз падкрэслівае грунтоўнасць ідэі.

Беларускі рок так і заявіў аб сабе — раптоўна і грунтоўна: ім усё шырэй поўняцца дыскатэкі і магнітафоны маладых беларусаў, аб ім піша прэса нават за межамі Беларусі — у Расіі, Літве, Польшчы, Балгарыі (пісала і „Ніва" пра рок-клуб „Няміга"), а радыёстанцыя „Савецкая Беларусь" ужо дала магчымасць пазнаёміцца з ім сваім слухачам ва ўсім свеце (на замежны эфір гучалі „Мроя", „Блізняты", „Бонда"). Так што: хто мае вушы, той чуў.

Але наўрад ці варта спыняцца на гэтым. Можа беларуская моладзь у Польшчы змагла б уласнымі творчымі сіламі падтрымаць і ўзбагаціць узышоўшы парастак? Бадай, для гэтага трэба бліжэй пазнаёміцца з тым, што ўжо ёсць. З гэтай мэтай і пачынаем цыкл беларускіх рок-знаёмстваў, дзе будуць і расказы аб лепшых калектывах, і тэксты з нотамі найбольш выдатных кампазіцый, і здымкі беларускіх рок-выканаўцаў. Чакайце чарговых выхадаў новае рубрыкі „Молада, сучасна, па-беларуску".

**Алена Цярэнцьева**



На сцэне — сімфа-рокавая група „Блізняты".



Пасля канцэртаў у рок-клубе дыскусія. Аргументы шукае прыхільнік хэві-металу.



Вынікі канцэртаў і дыскусій — не толькі бурныя эмоцыі, але і разважанні.

(Працяг са стар. 3)




усяго нашага нацыянальнага, імёны і то ўжо павяліся якісьці „не нашынскія", па-цудакаватаму чужыя. Наша бяда яшчэ і ў тым, што мы не ведаем беларускай гісторыі, таму лёгка падкінуць нам іншую, не вельмі разумеем, што гэта значыць: быць беларусам (не толькі адна мова і песня тут, аказваецца, важныя, на якіх не пабудуеш цэлы гмах нацыі!). Дагэтуль у некаторых было такое-сякое паняцце пра нашы карэнні беларускія, ад якіх вырастае беларускае дрэва ў садзе народаў свету. І вось з'явілася кніжка Сакрата Яновіча „Беларусь, Беларусь", якая паказвае нам, хто мы такія. Не буду шырэй пісаць пра гэтую даўно патрэбную нам кніжыцу! Дазволю толькі працытаваць яе кароценькі фрагмент: „...У маёй малой айчыне, у літоўскіх паводле старасвецкага разумення Крынках, у горадзе, у якім сужылі з сабою чатыры рэлігіі (...) значыць, у той маёй бацькаўшчыне кожная дарога і ўрочышча могуць і павінны быць узвышаны да рангу гістарычнага месца (...). На той зямельцы ўзыходзіла Польшча, але і Беларусь!"

Так апісвае Сакрат Яновіч свой родны горад, старажытныя Крынкі. Падобнае маглі б сказаць пра свае мясціны і людзі з Орлі або Махнатага, пра якія, дарэчы, і згадвае там жа Яновіч, успамінае сваё ў іх знаходжанне. Да гэтых яго ўспамінаў і я хачу далучыцца. Але пра іх, можа, у іншы раз вазьму свой голас на старонках „Нівы".

**Уладзімір Сідарук**

(Працяг са стар. 2)

**МА МЯЖЫ**

значэнне. Аднак ніколі яго не вучылі, што можна ўзяць гэты прадмет у зубы і прынесці дахаты. Для гэтага былі патрэбны не прыроджаныя здольнасці, а дрэсіроўка.

Можна паставіць пытанне, што было б, калі б Язэп Міруць не пайшоў „пад Сушчу"? Зразумела, што нельга тут выказвацца катэгарычна, але, праўдападобна, яго сабака здох бы ад голаду, але ад пашпарта не адыйшоў бы. Такая этыка і такая сабачая вернасць.

Апісанае здарэнне ўзрушыла не толькі Язэпа Міруця, але ўсю вёску. Таму і запамятаў я яго, хаця мінула ад таго моманту болей сарака гадоў і ўжо даўно няма на свеце Язэпа і яго Белкі.

**Алесь Барскі**



 

(Працяг са стар. 1)

## КРЫНШЧЫНА

і людзі прыбудуць нават з цэнтральнай Польшчы. У існуючых сёння дзевяці пэгээраўскіх блоках жыве 156 сем'яў. А наогул, дык у гміне неабходна затармазіць уцёкі ў горад, і ў сувязі з гэтым патрэбны дадатковыя ільготы для сялян, якія гаспадараць на землях ніжэйшай якасці.

Начальнік лічыць, што такімі ільготамі павінен быць не толькі ніжэйшы падатак, але і ніжэйшыя стаўкі ў ПЗУ і ЗУСе, а нават нейкая зніжка на куплю сельскагаспадарчых машын, якімі сяляне вымушаны апрацоўваць слабейшыя землі.

Паменшылася колькасць вясковых жыхароў, і ў сувязі з гэтым вырасла праблема вясковага гандлю. Часта здараецца так, што няма адкуль узяць прадаўца, даводзіцца зачыняць некаторыя крамы. Людзям тады трэба ездзіць у Крынкі, да якіх многім вёскам не так ужо і блізка. Гмінныя ўлады дамагаюцца ад ГСу арганізавання рухомых крамаў. Першыя крокі былі ўжо зроблены ў мінулым годзе. Летам два разы ў тыдзень у Рудакі, Ласіняны, Малыя Азяраны і Лішчаную давозіўся хлеб і іншыя тавары першай патрэбы. У бягучым годзе ад 1 жніўня да канца кастрычніка рухомая ГСаўская крама павялічыла свой абсяг на дзве вёскі — Саннікі і Вялікія Азяраны.

Гаворыць начальнік гміны:

— Мы хочам, каб рухомыя крамы працавалі на працягу ўсяго года. Плануем арганізаваць таксама рухомыя пункты аховы здароўя, каб такім чынам дапамагчы нашым вясковым пенсіянерам, ды не толькі ім. Аднак ідэя рухомых пунктаў аховы здароўя будзе ажыццяўляцца тады, калі ў Крынках павялічыцца колькасць медыцынскага персаналу, якога мы ўжо патрабуем здаўна.

Пачатковага школьніцтва стан таксама нялёгкі. З-за недахопу дзяцей закрыты некаторыя школы на вёсках, а школа ў Крынках перапоўнена дзецьмі. Сёння ў ёй вучыцца больш за 500 школьнікаў. І трэба брацца за яе разбудову, тым больш што сяляне вельмі ахвотна будуюцца ў Крынках. З часам неабходны будзе інтэрнат для школьнікаў, даязджаючых у Крынкі з далейшых вёсак, і дзеці маглі б жыць там ад панядзелка да суботы.

Сёння ў Крынках жыве 2800 чалавек. Гэта больш паловы ўсяго насельніцтва гміны (4400 чалавек). Як відаць, колькасць жыхароў Крынак будзе пастаянна павялічвацца. І добра, што начальнік гміны думае аб нейкім прадпрыемстве па перапрацоўцы гародніны. Ужо сёння Крынкі вядомы сваёй сталовай вадою „Крынка", славяцца і іх скуры з адноўленай гарбарні.

Гмінныя ўлады прысвячаюць шмат увагі стварэнню ў Крынках базы для адпачынку. На трох гектарах паўстае там вадасховішча. Адбудоўваецца падворскі парк, які прыстасоўваецца да сённяшніх патрэб людзей. Гмінным уладам удалося адстаяць мясцовую бальніцу, якую хацелі ліквідаваць. Бальніца, праўда, невялікая, існуе яна яшчэ ад першай сусветнай вайны, але мястэчку яна вельмі патрэбная.

Трэба падкрэсліць, што гмінны цэнтр, хаця памаленьку, але ж усё настойлівымі крокамі ідзе наперад. Два гады назад быў тут пабудаваны водаправод, а цяпер вось думаюць пра пабудову ачышчальні сцёкаў, перш за ўсё гарбарскіх. З гэтай мэтай створана воднасцёкавая суполка, якая зоймецца таксама санітарнай каналізацыяй.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 5)

## НА ВЯСЕЛЛІ Ў ДЗЯДЗЬКІКВАСАВАГА ЎНУКА

што яго сын, таксама Мікалай, стаў цяпер галоўным гаспадаром на хутары за Малынкай, звязаўшы свой лёс з наймалодшай дачкой Міхася Красоўскага, Тамаркай. Дык Мікола Лук'янюк бывае цяпер частым госцем у свайго сына і працягвае „ніўскую" традыцыю на хутары за Малынкай.

*

Дзень, быццам на злосць, выпаў вельмі халодны. Дык госці шчодра разаграваліся „ад сярэдзіны". Вядома, безупынку „за здароўе" маладога, бо ў Малынцы быў ён яшчэ без маладой. Маладая рыхтавалася да шлюбу ў сваіх бацькоў, у Белках, і там прымала сваіх гасцей.

Урэшце госці абдаравалі маладога, чым і як хто хацеў, маці, бабулька і бацька хросны паблаславілі Андрэя на добры шлях у новае жыццё, пакрапілі яшчэ аўтамабіль з маладым і яго дружкамі свянцонай вадою і пад гукі вясельных маршаў аўтамабільны карагод паімчаўся ў Белкі за маладою, а з Белкаў — у трасцяніцкую царкву. У папярэдні дзень, значыць, у суботу, 25 красавіка, іх рашэнне, каб быць мужам і жонкай, адзначана было ва ўправе па рэгістрацыі грамадзянскіх запісаў.

*

У Нарве маладых чакаў дамоўлены фатограф. Сфатаграфаваўшыся, маладыя вярталіся ў Белкі. Ля ўезду ў вёску, сябры маладой жалезным ланцугом перагарадзілі вуліцу. Маўляў, выкупляйся, брат, калі ўкраў у нас дзяўчыну.

Калісьці перапынялі коней, што везлі маладых, а цяпер перапыняюць таксоўкі. І жарт, як жарт, толькі, на жаль, маладым кавалерам у нашых вёсках зусім не да смеху. Нават у гэтых жа Белках кандыдаткі на жонак — тавар вельмі ж дэфіцытны.

— Вось паглядзіце, — паказвалі мне аднаго тутэйшага „бабыля", — ужо яму больш за сорак, а жонкі ніяк не можа знайсці. Каб гора свайго не бачыць, дык амаль кожны дзень вочы сабе „сівухаю" залівае.

Позна вечарам запрасілі і яго на вяселле, хаця ніякім сваяком ён маладым не прыходзіцца.

*

Бацька вясельны, Міхась Семянюк, гаспадар разважлівы і заможны, рыхтаваў вяселле на 150 чалавек. Госці запоўнілі ўсе пакоі і пакойчыкі яго даволі прасторнай, хаця і традыцыйнай драўлянай хаты.

— Гэта ж выходзіць замуж мая апошняя дачка.

Старэйшая дачка, Зінка, закончыўшы Гайнаўскі беларускі ліцэй, абсталявалася жыць таксама ў Гайнаўцы, а сын Янка падаўся ў Беласток.

— І не шкада вам так добра наладжанай гаспадаркі? — запытаў я ў вясельнага бацькі.

— Што ж, такі наш лёс, — адказаў дзядзька Міхась. — Пакуль зможам, дык і пацягнем...

*

Аркестр, які сябе назваў **„Завыкі"**, складаўся з двух беластоцкіх шафёраў таксі і аднаго, таксама беластоцкага, настаўніка; ён нястомна і са спевам рэзаў модныя „кавалкі", госці ўтарылі ў рытм, ды што і раз прасілі „пасаладзіць" горкую гарэліцу. Наперамену з „саладжэннем" па чарзе маладым і іх бацькам ды самым бліжэйшым сваякам спявалі „Сто лет" і „Многая лета".

Аркестр хутка прыстасаваўся да агульнага настрою. „Завыкі" ігралі і спявалі па-беларуску. Ад *„Нясе Галя воду"* і *„Касіў*

(Працяг са стар. 5)

## АДГАЛОСКІ

ла накіраваць Марка ў дзіцячы дом, бо ў папраўчы дом кіруюць у самых крайніх выпадках. Улады не мелі намеру пазбавіцца адсюль Марчыка. З гэткім намерам насілася сама Галіна Кічко, і то аддала яго ў той дом не таму, што ён кепска паводзіў сябе, а таму, што былі дрэнныя ўмовы дома. Але і куратарка Кічко таксама хлусіць: умовы дома былі такія, як у кожнага на вёсцы.

Я вас прашу: папраўце вы гэта.

**Аўрора**

**Ад рэдакцыі.** Паважаная Аўрора, памылкі былі магчымыя і мы лаяльна папраўляем іх, друкуючы вашу рэпліку. Зразумейце, аднак, што мы не маглі змясціць у друку цэлы ваш артыкул, які быў аж на пятнаццаці старонках, трэба было скарачаць, да памераў нармальнага артыкула ў газету. Мы адшукалі ў сваім архіве той ваш артыкул, якому вы далі загаловак „Гультай, ілгун і злодзей". Мы палічылі за лепшае не называць так Марчыка, бо дзеці не родзяцца гультаямі, ілгунамі і зладзеямі, яны робяцца такімі часамі пад уплывам асяроддзя. Марчыка спрабавала дысцыплінаваць маці, але перашкаджала гэтаму бабуля, бескрытычна закаханая ва ўнука. І педагогі сваёй абыякавасцю ўсё-такі паспрыялі гэтай бядзе. Лёс Марчыка выдаўся нам непатрэбны, не мусіў быць ён такі, якім, на жаль, стаўся.

Наконт арышту Марка вы напісалі так, бо ж іначай не можна было зразумець, скарачаючы ваша доўгае пісанне: апісваеце свой удзел у пахаванні бабулі, закончыўшы словамі: „Марка арыштавалі і я вярнулася дадому". Падобных цытатаў у іншых спрэчных справах можна было б дадаць, але справа не ў тым, каб абараняцца: сама абарона ўжо спараджае далейшы канфлікт. Мы не хочам, каб вы зламаліся на нас. Мы хочам, каб пры нагодзе гэтага прыкрага інцыдэнту і іншыя, звязаныя з „Ніваю" людзі, задумаліся па шчырасці, якія могуць быць непаразуменні толькі таму, што пра нешта напісана ў рэдакцыю недастаткова ясна або і двухзначна. Рэдакцыя не здымае з сябе віны, ды ці толькі яна вінаватая?

Некаторыя закідаюць нам аблуду. Іх справа, у кожнага свае рацыі і погляды. Тым не меней, нават найбольшы зласлівік павінен пагадзіцца з намі: сапраўды аблудная рэдакцыя не возьмецца публікаваць рэпліку „Ці ж так можна?" (а гэтае ж пытанне, як бачым, датычыць не адных нас, будзьма справядлівымі).







Недзе ў другой палове кастрычніка 1381 года Кейстут сфармаваў невялікую, але моцную і аператыўную армію, аснову якой склалі прысланыя Вітаўтам з Берасцейшчыны, Дарагічыншчыны ды Гарадзеншчыны воі. Спакваля, не спяшаючыся і распускаючы направа і налева чуткі пра свой супрацькрыжацкі паход, рушыў з ёю на захад, аж два дні ішоў да пагранічных крэпасцяў на Нёмане, а на трэці пераправіўся цераз раку і загадаў... павярнуць назад! Калі да Трокаў заставалася якая-небудзь міля дарогі, Кейстут загадаў павярнуць на Віленскі гасцінец і браць... Вільню.

Мабыць, наблізіліся яны да крэпасці ноччу і ўдарылі знянацку раніцай, калі варта бяспечна драмала, а Ягайла і яго шматлікая радня яшчэ спалі. Зрэшты, калі б нават і загадзя згледзелі Кейстутавых вояў, наўрад ці западозрылі б іх у нечым благім і, пэўна, не бараніліся б. А і бараніць Вільню не было каму, бо ўся Ягайлава армія, на чале з яго сярэднім братам Скіргайлам якраз сілілася пры падтрымцы крыжакоў здабыць Полацк. Кейстут, уварваўшыся ў замак, „схапіў вялікага князя Ягайлу з братамі і з маці іхняй", — як падае „Хроніка Быхаўца". Адразу, вядома, кінуўся да скрыняў, дзе захоўваліся дзяржаўныя акты, і без цяжкасцей знайшоў там Ягайлаў дагавор з крыжакамі ад 31 мая 1381 г. у Давідзішках.

Відаць, старому моцна балела Вітаўтава няверʼе ў яго, бацькі роднага, словы пра Ягайлаву здраду. Бо як толькі ён знайшоў той увешаны крыжацкімі і пляменнікавымі пячаткамі пергамін — адразу скіраваў адмысловага пасланца па сына ў далёкі Дарагічын. Тым часам сын, як вядома, ужо ў Горадні з дня на дзень чакаў звестак з паходу Кейстута. Там і знайшоў яго пасыльны.

Хоць і спадзяваўся Вітаўт нечаканасцей, але сказанае спешна веставым настолькі яго ўстрывожыла, што ён мігам ускочыў у сядло і, загнаўшы да крывавай пены некалькіх расстаўных коней, за адзін дзень ужо быў у Вільні. Была гэта, відаць, незвычайная хуткасць — за дзень адолець каля 150 кіламетраў — калі пра яе са здзіўленнем пішуць летапісцы. Кейстут жа, як чытаем у „Хроніцы Быхаўца", сустрэў сына словамі:

— Ты мне не верыў, а вось і тыя граматы, што супраць нас былі спісаны! — і падаў Вітаўту пергамінны скрутак.

Той, відаць, без асаблівай ці-

 

# РАСКЛАД РУХУ АЎТОБУСАЎ ПКС СА СТАНЦЫІ ГАЙНАЎКА

| Прыезд | Кірунак | Ад'езд |
|---|---|---|
| 8.20 | **Беласток,** ц. Бельск, Заблудаў | 18.05 |
| 11.16 | **Беласток** ц. Бандары | — |
| 16.50 | **Беласток** ц. Чыжы, Нараў | 6.45 |
| 6.41аж, 15.00д, 16.56а | **Беласток** ц. Нараўку, Жэдню | 7.00аж, 11.00а, 15.25д |
| 7.30аж, 7.50, 10.50, 12.00, 13.40а, 14.10д, 14.50, 15.20а, 16.00д, 17.20в | **Беласток** ц. Навасады, Нараў | 5.15в, 6.00в, 6.45в, 7.00а, 7.45ев, 8.15а, 8.30аж, 10.00, 11.15, 12.40, 14.30, 15.00д, 15.30, 22.00е |
| 17.50 | **Беласток** ц. Адпогу, Жэдню | 6.00 |
| 9.15, 13.15е, 18.25е | **Беласток,** ц. Трывежу, Нараў | 8.00, 14.00е |
| 17.11 | **Беласток** ц. Тыневічы, Нараў | 8.10е |
| 8.48, 16.13 | **Баб'я Гара** ц. Семяноўку, Нараўку | 6.35, 14.00 |
| 7.50, 9.35, 13.56с 15.55в | **Белавежа** | 6.30в, 8.10, 12.10с, 12.30, 14.30 |
| 6.41, 9.06, 10.45, 14.01, 15.36, 18.01 | **Белавежа** ц. Буды | 7.00в, 8.35, 13.50, 15.50, 17.06 |
| 16.10в | **Бельск-Падл.** ц. Антонава, Орлю | 6.05в |
| 6.07 | **Бельск-Падл.** ц. Чыжы | 16.50в |
| 5.54а, 6.04в, 6.34ав, 8.00, 11.04, 12.00, 13.14, 14.30, 17.30в | **Бельск-Падл.** ц. Галады | 5.55в, 11.00, 12.30, 15.30в, 17.40а, 18.05 |
| 6.02ажв | **Бельск-Падл.** ц. Камень | 15.45, 18.15 |
| 13.31 | **Бельск-Падл.** ц. Кляшчэлі | |
| 9.04а, 15.10ав | **Бельск-Падл.** ц. Локніцу | 6.45ав, 10.00аж, 13.30ав |
| 5.45а | **Бельск-Падл.** ц. Нараў, Навасады | |
| 6.24в | **Бельск-Падл.** ц. Орлю | 16.25в |
| 7.48в | **Чыжы** | 6.56в |
| 8.13а, 16.28 | **Кляшчэлі** ц. Дубічы-Царк. | 6.00е, 7.44ав, 15.00, 15.25а |
| 5.40а, 7.40ав, 15.16в | **Ласінка** ц. Трывежу | 4.50а, 6.40а, 14.15 |
| 6.45а, 9.35а, 13.50а, 15.55а | **Лозіцы** ц. Арэшкава | 6.10а, 9.00а, 13.15а, 15.20а |
| 5.50в, 9.55а, 15.35 | **Масева** ц. Нараўку | 8.00а, 13.30, 17.30в |
| 5.45е, 11.46, 17.54 | **Міхалова** ц. Нараўку, Бандары | 6.00, 16.35 |
| 6.41аж, 15.01д, 16.56 | **Міхалова** ц. Нараўку, Сушчу | 7.00аж, 11.00, 15.25д |
| ——— | **Мілейчыцы** ц. Антонава, Орлю, Бельск-Падл. | 6.25в |
| 12.20аж, 16.50 | **Нараў** ц. Чыжы | 6.45 |
| 6.35в, 7.50ажв 8 55аж, 10.50, 14.10д, 15.20а, 16.00е, 17.20в, 18.35а | **Нараў** ц. Навасады | 5.15в, 6.00в, 6.45в, 8.15а, 8.30аж, 10.00, 11.15, 14.30, 15.05д, 16.20е, 17.15а, 22.00 |
| — | **Нараў** ц. Трывежу | 8.00 |
| 17.11 | **Нараў** ц. Тыневічы Вялікія | 8.10д, 10.20аж, 13.20а |
| 5.00, 5.45е, 5.50в, 6.41аж, 7.48, 8.48, 9.55, 11.40, 15.01д, 15.35, 16.13, 16.56; 17.54 | **Нараўка** | 6.00, 6.20а, 6.35, 7.00аж, 8.00, 11.00, 13.30, 14.00, 15.05д, 16.35 |
| 7.15в | **Адрынкі** ц. Трывежу, Нараў | 16.20в |
| 10.16а, 14.16 | **Орля** ц. Крывяцічы | 9.00а, 13.00 |
| 9.34, 14.30 | **Палічна** ц. Дубічы-Царк. | 7.56, 13.00 |
| 6.11в, 12.33а | **Палічна** ц. Арэшкава | 11.00а, 16.30в |
| 6.35ав, 10.00, 12 10с | **Сямяцічы** ц. Кляшчэлі | 14.00с, 14.10в, 15.45ав |
| 15.35а, 15.58аж | **Тапіла** ц. Арэшкава | 6.30ав, 9.00аж |
| 7.55а,10.20аж | **Тапіла** ц. Вітава | 14.15а, 14.40аж |
| 7.35аж, 15.55ав | **Тыневічы Малыя** ц. Чыжы | 6.25а, 11.45, 15.10в |
| 7.30а, 9.07аж, 13.00, 16.05в, 18.02 | **Тыневічы Малыя** ц. Камень | 6.20аж, 7.50аж, 14.40ав, 16.45 |
| 6.30ав, 16.40а | **Тыневічы Малыя** ц. Навасады | 5.10а, 15.20ав |
| 12.10с, 20.37 с. | **Варшава** | 6.50с, 14.00с |

а — ходзіць у працоўныя дні
в — першынства для пасажыраў з месячнымі білетамі
д — не ходзіць 1987.12.25 і ў першы дзень Вялікадня
е — не ходзіць 1987.12.25, 1988.01.01 і ў першы дзень Вялікадня
ж — не ходзіць у дні свабодныя ад працы

*Ясь канюшыну*" аж па навейшы рэпертуар, вядомы з апошніх аглядаў беларускай песні. Вось што значыць камерцыя! За 40 тысяч злотых у суткі можна іграць, што ты захочаш — беларускае!

Вячэрні прыём закончыўся ўрачыстым складаннем падарункаў. Ролю колішняга каравая падмяніў сучасны „сукач". Госці падыходзілі да маладых, складалі пажаданні і падарункі ды „перапівалі".

Пасля былі танцы. Танцавалі ў клуні, спецыяльна ачышчанай і падрыхтаванай дзеля гэтай нагоды. А пасля зноў вярнуліся за сталы, на піражнае і салодкае. Толькі мяне ўжо там не было. Гады, якія ўзбіраліся на мой хрыбет, і службовыя абавязкі рабочага панядзелка не дазволілі мне дачакацца канца гэтага вяселля. Калі развіталіся мы з маладым, Андрэй выказаў шчырае шкадаванне:

— Вось шкада, што наш дзед не дачакаўся майго вяселля.

Я таксама гэтага шкадую, але ў мяне склалася такое ўражанне, як быццам бы Дзядзька Квас прысутнічаў на гэтым вяселлі.

**Віктар Рудчык**

каўнасці ўзяў граматы, затое ўсхваляваным голасам запытаў:

— А што з Ягайлам?..

Пытанне моцна збянтэжыла ўзбуранага старога князя і ён, быццам апраўдваючыся перад сынам, сказаў:

— Але ж я вялікаму князю Ягайлу нічога не ўчыніў: не парушыў ні скарбу яго, ні дабытку, ды самі яны ў мяне амаль на свабодзе ходзяць, толькі пад малою вартай. А бацькаўшчыну яго, Віцебск і Крэва, і ўсе месты яго, што трымаў ягоны бацька, усе яму даю і ні ў ва што не ўмешваюся, — тлумачыўся Кейстут перад нахмураным сынам, і, згледзеўшы ў сынавых вачах асуджэнне, застагнаў: — Я ж паступіў гэтак, сцерагучы галаву сваю, бо пачуў, што на мяне ліха рыхтуюць!..

Далей, відаць, пайшла больш вострая спрэчка бацькі з сынам, які не ўхваляў гэтага замаху.

Вядома, такі ход справы быў на руку Ягайлу і не дзіва, што ўсе беларускія летапісы цвярдзяць у адзін голас: „князь вялікі Ягайла вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта". Няйнакш, разлічваў ён на Вітаўтаву дапамогу. І, мабыць, паміж дваюраднымі братамі наступіла нейкае патаемнае пагадненне, непрыхільнае старому князю. Вядома, Кейстуту не маглі падабацца такія двудушныя паводзіны сына. І гэта таксама схіліла яго да рашучых крокаў.

Кейстут, склікаўшы сваіх „падручных" князёў і баярскае старшынства, аб'явіў сябе вялікім князем. Мабыць, усе яны са шчырым задавальненнем прывіталі гэты акт і прысягнулі яму вернасць, хісталіся толькі... Ягайла і Вітаўт. Таму аўтар „Хронікі Быхаўца" і падкрэсліў: „І праўду далі (гэта значыць: склалі прысягу — М. Г.) з Ягайлам вялікі князь (гэта значыць: Вітаўт — М. Г.) сваіму айцу, вялікаму князю Кейстуту, што ніколі супроць яго не выступяць, а заўсёды ў яго волі быць з усімі". Што ж, зрабілі яны тое нехаця, але і выбар невялікі мелі: або прысягу на вернасць Кейстуту, або пазбаўленне ўсёй маёмасці і выгнанне з краю.

І адчувалі сябе абодва амбітныя і задзёрыстыя князі надта ж няёмка, калі не зусім гідка. Збітая ганарлівасць ды пачуццё прыгнечанасці яшчэ болей з'яднала іх. І як толькі Ягайлу „Князь вялікі Кейстут адпусціў... з маці і братамі і з усёй маёмасцю", — чытаем у той жа „Хроніцы", то „князь вялікі Вітаўт правёў яго ў Крэва".

А Кейстут тым часам успомніў сваю маладосць — з незвычайнай энергіяй узяўся ўладкоўваць знешнія і ўнутраныя справы дзяржавы. Перш за ўсё прыступіў да суняцця самалюбнай ганарыстасці шматлікіх Альгердавых сыноў, якія пры Ягайле і за яго патураннем. пачалі разрываць на кавалкі Вялікае княства Літоўскае і ўтвараць з іх незалежныя дзяржавы — ўдзелы.

Ратаваць адзінства і веліч Вялікага княства ад распаду на варагуючыя паміж сабой удзелы Кейстут пачаў з таго, што спыніў здабыванне князем Скіргайлам-Іванам Альгердавічам з удзелам крыжакоў непакорлівага Полацка. Прытым зрабіў гэта не загадам, а звярнуўся да... народа. У „Хроніцы Быхаўца", між іншым, чытаем: „А князь вялікі Кейстут, як сеў у Вільні, паслаў двух чалавек у Полацк: аднаго ў войска, а другога ў горад. І палачане ўзрадаваліся і заклікалі ваюючых, і вайскоўцы адступіліся ад Скіргайлы ды пайшлі ў Вільню да Вялікага князя Кейстута. А князь Скіргайла пайшоў у Нямеччыну з прыслугай". Значыць, усё аблягаючае Полацк Ягайлава баярства і полацкае мяшчанства адразу стала на бок Кейстута. Што ж, ніжэйшыя пласты насельніцтва, і перш за ўсё беларусы і жмудзіны, справядліва бачылі ў асобе старога князя ахвярнага абаронцу ад крыжацкага наступу і змагара за адзінства і моц дзяржавы. Гэтая падтрымка падбадзёрыла старога князя, выдатна ўзмацніла яго вайсковую сілу і стварыла варункі для далейшых дзеянняў.

Кейстут крута павярнуў замежную палітыку Вялікага княства з Ягайлавай варожасці да Маскоўскага княства і прыязні з крыжакамі на бескампраміснае змаганне супраць крыжацкага наступу пры мірных суадносінах з маскоўскімі князямі. Дзеля наладжання прыязных сувязей з Масквой пакарыстаўся цяжкім яе становішчам пасля кровапралітнай бітвы на Куліковым Полі ў 1380 г., дзе яно страціла асноўныя свае вайсковыя сілы. Залатая арда прагнула крывавай помсты на Маскоўскім княстве і збірала аграмадную армію ў паход на свайго нядаўняга пераможцу. Князь Дзмітры Данскі бачыў гэтую смяротную пагрозу і ўсюды шукаў апоры і падтрымкі ў змаганні з татарскім засіллем. Маскоўскаму княству, вядома, асабліва было б на руку, каб пад пананаваннем Кейстута Вялікае княства Літоўскае парвала ранейшыя, заключаныя Ягайлам, прыязныя адносіны з татарамі Залатой арды. Уладкаваць справы з Дзмітрыем Данскім выдатна дапамог мітрапаліт Кіпрыян, які ў той час па запрашэнню самога Данскога знаходзіўся ў Маскве. Неабходна пры тым моцна падкрэсліць, што якраз Кіпрыян унёс вялікі асабісты ўклад у замірэнне і ўзаемнае набліжэнне абедзвюх дзяржаў на доўгія дзесяцігоддзі.

Маючы ў Маскоўскай дзяржаве і асобе яе князя саюзніка, Кейстут яшчэ з большай паслядоўнасцю працягваў барацьбу супраць ворагаў Вялікага княства Літоўскага. Але аб тым праз тыдзень.

**Мікола Гайдук**



 

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ГАЛАШЭННІ

Сёння прывяду некалькі чарговых тэкстаў галашэнняў, якія, як і папярэднія, характарызуюцца не толькі значным падабенствам, але таксама істотнымі адрозненнямі. У гэтым аспекце значную цікавасць прадстаўляе галашэнне маці над памёршай дачкой з вёскі Семяноўка. Арыгінальнасць прыведзенага тэксту заключаецца ў тым, што складаецца ён з двух тэматычных частак. Першая частка — гэта тыповы для такога тыпу галашэнняў зварот маці да памёршай дачкі. Другая частка з'яўляецца зваротам да яе даўно памёршай бабулі, якую жанчына заахвочвае займацца на другім свеце памёршай унучкай.

*Ах, мая ты дачушачко!*
*Ах, мая ты кветачко!*
*А чом ты так раненько*
*Свае очкі заплюшчыла?*
*А чым я Бога разгневала?*
*А чым я ў Бога зграшыла?*
*Я ж на цебэ, як на сонечко,*
*Углядалася, дзівілася!*
*А дзе ж мне цепэр дзівіцца,*
*Калі стала ўсюды ночка цемна?*
*Ах, мамочко, мамочко!*
*Чы вы хоцъ там знаеце,*
*Што ваша ўнучачка*
*Сегодня да вас прыходзіт?*
*Вы яе даглядайце!*
*Ад злого засланяйце!*
*Пакрыўдзіць не дайце.*

Зразумела, што нельга гаварыць на тэму зместу галашэння з той жанчынай, якая галосіць. Такая спроба нават найпрацейшаму чалавеку здавалася б грубіянствам. З гэтай прычыны фальклярыст вымушаны або пастаянна прыслухоўвацца да галашэння, якое адбываецца, і запісваць яго ўручную ці на магнітафон, або пасля звярнуцца да трэціх асоб, якія найчасцей даволі ахвотна паўтараюць галашэнні жыхарак дадзенай вёскі. Цікава, што на пытанне, ці выступаючы ў галашэнні зварот да раней памёршай маці адносна апекі мае сэнс, калі вядома, што ў небе памёршымі апякуецца Бог і ніякае заступніцтва з боку людзей непатрэбнае, адказваюць, што патрэбнае. „Бо бачыш, — адказвае жыхарка вёскі Семяноўка Вольга Буйко, — у раеві то таксамо можэ быць вэльмі па-рознаму. І там таксамо, як і на зямлі, часам якаясьціка брыда завядзецца. Ну, а кроме гэтага, то чы ж такое малое дзіцятко самэ будзе сабе радзіці? То ж вадомо, што ні будзе ведаці, дзе прытуліцца і том яго бабка павінна ім апекавацца і нагледаці за ім і пасабляць ему". Прагну яшчэ прывесці тэкст галашэння жонкі па мужу з вёскі Бандары. Тэкст гэты характэрны тым, што побач тыповых для хаўтурных элементаў дэкларацыйных матываў і ўсхвалення маральных якасцей памёршага, выступае ў ім матыў, звязаны з прафесійнай дзейнасцю памёршага. Нябожчык быў пры жыцці рашотнікам, і жонка, лямантуючы, якраз на гэтыя яго зацікаўленні палажыла націск:

*А мой ты найдарожшы,*
*На каго ты мяне пакінуў,*
*Чы на ворагоў,*
*Чы на прыяцелёў?*
*Хто ж цяпер па лесі*
*Будзе хадзіці?*
*Хто ліпкі будзе абдзіраці?*
*Хто абегачкі будзе стругаці?*
*Хто рашота, як сонечко,*
*Будзе рабіці?*
*Ты нам хату збудаваў вяліку,*

(Працяг на стар. 11)

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, мне ўжо хутка 25 гадоў. Я закончыла вышэйшую адукацыю і ўжо працую. У маіх сяброваk, якія амаль у тым жа ўзросце, ужо ёсць свае сем'і — мужы і дзеці, а ў іншых то ўжо па пятнаццаць хлопцаў было, а я вось затрымалася на адным і неяк усё ні туды, ні сюды. Тры гады я сябрую ўжо з Міркам. І ён ужо закончыў адукацыю і ўжо мае працу і кватэру. Але што з таго! Калі мы бываем разам, даходзіць да розных імпертыненцый, а калі асобна — пачынаем сумаваць адзін па другім. Проста не ведаю, што рабіць. Я б зусім ахвотна выйшла ўжо замуж. Але Мірэк неяк на гэтую тэму гаварыць не хоча, дык што, мне, дзяўчыне, першай пачаць пра гэта гаворку? Мяне маці вучыла, што такія прапановы павінен рабіць мужчына. Ну, дык я і маўчу. Але ў апошні час ужо не вытрымала і ўзбунтавалася. Гэта ж падумаць: водпуск ідзе, а ён нават і слоўцам не ўспомніў пра тое, каб выехаць кудысьці разам, каб проста выкарыстаць нагоду і пабыць адзін на адзін. Ну што ж, значыць я яму непатрэбная. Значыць, прайшло яго каханне і я стала яму абыякавай. І тады я вырашыла паехаць абы-куды. Намовіла маю маму і мы разам з ёю паехалі да нашых сваякоў. Як мне там было, пісаць не буду, бо як мне там магло быць калі сэрца агарнула чорная роспач. Але час праляцеў неяк надзвычай хутка, і мы з мамай вярнуліся дахаты. Я пазваніла Мірку, і ён адразу прыйшоў да мяне. Сказаў: „Добра ўсё-такі, што ты выехала, бо выехаўшы, змусіла мяне, каб я па табе засумаваў". Словы Мірка як бы вярнулі мяне да жыцця. Тры гады вось мінула, як мы ўжо ходзім з ім, а ніколі нічога такога я не пачула ад яго. Дарагое Сэрцайка, ці не абазначае гэта, што Мірэк ў канцы канцоў пераканаўся, што я ў яго жыцці адыгрываю немалаважную ролю, і мо цяпер ён зробіць мне нейкую прапанову і я змагу стаць яго шчаслівай жонкай? Я Мірка кахаю страшна. І наогул жыцця без яго не ўяўляю.

**Бася**

Бася! Тваё сяброўства з Міркам выглядае мне больш на сяброўства і толькі. А са звычайнага сяброўства фактычна не вынікае патрэба прызнавання ў каханні ці прапановы наконт выйсця замуж. Наогул людзі, якія ходзяць ужо тры гады, а да таго яшчэ моцна кахаюцца, ведаюць, ці і калі яны будуць браць шлюб. Калі твой Мірэк дагэтуль табе пра гэта і не намякнуў нават, то грош цана яго каханню да цябе. Ды і як жа хлопцу можа быць абыякава, дзе будзе ў час летняга водпуску яго дзяўчына? Калі б кахаў па-сапраўднаму, то не зазнаў бы спакою ні ўдзень, ні ўначы. Усё думаў бы: а дзе яна там, а што яна робіць, а з кім паехала, каго сустрэла, з кім пайшла ў кіно ці на танцы і г.д. і т.п. Твайго ж Мірка такое пытанне не хвалюе. Ён так спакойны за цябе, што гэткія думкі яму не прыходзяць нават у галаву. Дзякуй Богу, што пахваліў цябе за тое, што ты выехала, то ён прынамсі мог засумаваць па табе, бо так то і аказіі дзеля гэтага не меў бы...

Твой Мірэк, Бася, кінуў табе на прывітанне гэтыя словы, быццам міласціну нейкую, а ты ўзяла іх усур'ёз і занадта перанялася, снуючы ўжо далёкія планы на будучыню. Думаю, што гэты хлопец тваім мужам быць не хоча. А ці будзе ім? Ну што ж, рознае ў жыцці здараецца... Ды толькі ці будзеш ты шчаслівая?..

**Сэрцайка**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### НЫРКІ З ГАРОДНІНАЙ

На 400 г ялавічных нырак трэба ўзяць 50 г тлушчу, 1 шклянку памідорнага соусу, 2 кіслыя агуркі, 2-3 цыбуліны, 2 морквіны, 5 бульбін, перац, лаўровы лісток, зеляніну, соль.

З нырак зняць плёнку, пасля чаго намачыць іх на 2-3 гадзіны. Пералажыць ныркі ў каструльку, заліць халоднай вадой і варыць каля 10 мінут. Адвар выліць (не трэба яго выкарыстоўваць!). Ныркі заліць ізноў гарачай вадой, дадаць цыбулю, лаўровы лісток, моркву і перац і варыць на слабым агні каля гадзіны. Яшчэ раз ныркі перамыць халоднай вадой, а пасля парэзаць на кавалкі і абсмажыць (ныркі цялячыя, баранія і свіныя можна абсмажыць сырымі). Звараныя і падсмажаныя ныркі палажыць у каструльку, дадаць тоненькія палоскі кіслых агуркоў (без скуркі і насення), абабраныя і нарэзаныя костачкай, ды лёгка падсмажаныя бульбу, моркву і цыбулю, а таксама лаўровы лісток, перац, памідорны соус і соль. Тушыць пад покрыўкай, пакуль гародніна не стане мяккая. Гатовую страву пасыпаць пасечанай зелянінай.

Памідорны соус робім наступным чынам: на паўтары шклянкі памідорнага перацёру бярэм 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 морквіну, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, 1 сталовую лыжку масла, 3 шклянкі мяснога адвару, 1 сталовую лыжку тлушчу, соль.

Муку падсмажыць на тлушчы; калі яе колер будзе крэмавы, развесці гарачым мясным адварам. Абабраную моркву і пятрушку, а таксама цыбулю пасячы і падсмажыць крыху. Пасля гэтага дадаць памідорны перацёр і падаграваць мінут 10-15. Усё гэта палажыць у мясны адвар і варыць яшчэ мінут дзесяць на малым агні. Тады дадаць масла, соль, перац — мяшаць, працадзіць і давесці да кіпення.

### ГРЭЦКІЯ ПІРАЖКІ З ЗЯЛЁНАЙ ЦЫБУЛЬКАЙ

На 2 шклянкі грэцкай мукі трэба ўзяць 2 яйкі, тры чвэрці шклянкі вады ці малака, паўкілаграма зялёнай цыбулькі, 4 сталовыя лыжкі масла, соль.

З грэцкай мукі падрыхтаваць густое цеста, дадаўшы ў яго яйка і малако. Цеста раскатаць на таўшчыню 0,2 см, выразаць з яго вялікія кружкі, змазваючы іх па краях збітым яйкам. На кожны кружок палажыць падсмажаную цыбульку, пасля чаго краі кружкоў спалучыць і заціснуць. Піражкі зварыць у пасоленай вадзе і падаць з маслам, перакладаючы падсмажанай цыбуляй.

**Гаспадыня**

## СОННІК

87

**Пісталет** — гнеў; страляць з яго — добры вынік.

**Пісьмовы** стол (бюрка) — фальшывае абвінавачанне; цябе чакаюць важныя справы.

**Піўнушка** — асцерагайся згубных схільнасцей і азарту.

**Піць** ваду — багацце; са шклянкі — здрада таямніцы; з іншага начыння — вызваленне; іншае пітво — задавальненне.

**Пішчалка** — прайграны суд.

**Плаваць** — жыццё без турбот; у мутнай вадзе — перашкоды, цяжкасці; у быстрай вадзе — рызыканцкі ўчынак; бачыць плаваючых — здзяйсненне зычанняў.

**Плакат** — неспадзяваныя навіны.

**Пламень** — папярэджанне пра злодзея.

**План** — пабудуеш уласны дом; рысаваць — карысныя задумы, намеры.

**Пластыр** — некарыснае; на рану — дапамога блізкаму; насіць — выбач тым, хто цябе абражае.

**Пласцінка** (кружэлка) — купляць — цябе запросяць у гасціну; атрымаць у падарунку — прыемная неспадзяванка.

**Плач** — уцяшэнне.

**Плашч** новы — канец дагэтуляшніх турбот; падзёрты — змена; завялікі — клопаты; нехта апрануты ў плашчы — прыкідваецца; знімаць — ты лепшы, чым цябе лічаць.

**Плесня** — чалавечая зычлівасць.

**Плечы** — моц і вытрымка.

**Плён** — багацце; звозіць — спадчына.

**Плёткі** — бястактныя паводзіны.

**Плот** — перашкоды і прыкрасці; пераскочыць — выхад з цяжкага палажэння; сапсаваны — зладзеі; пералазіць — чакаюць твайго прыбыцця.

**Плуг** — хуткі шлюб; араць ім — шчасце; паламаць — перашкоды ў працы.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Зноў у школе

**Прайшло лета. З ім канікулы. Вы зноў у школе. Кожны — у вышэйшым класе. Перад вамі новыя тайны, якія пазнаеце праз навуку і праз кніжкі.**

**„Зорка“ ведае, што яе сябрычытачы будуць вучыцца добра і ахвотна. І не забудуць пісаць „Зорцы“ аб сваіх перажываннях і аб сваёй працы, вучобе.**

**Жадаю вам, мілыя дзеці, і вашым дарагім настаўнікам многа здароўя і поспехаў у вучобе ў новым 1987/88 школьным годзе.**

**Запрашаю да супрацоўніцтва з „Зоркай“. А на пачатак напішыце, як распачалі новы навучальны год.**

**„Зорка“**

**На здымку: фрагмент цікава інсцэнізаванай беларускай песні „Лянок“ у выкананні школьнай групы з Кляшчэляў пад кіраўніцтвам настаўніцы Яўгеніі Такаюк (І узнагарода ў конкурсе „Беларуская песня-87“ для школьнікаў).**

**Фота Я. Чэрнякевіч**




**Ніл Гілевіч**

### ЛЕТА

**Надышлі канікулы —
Вось было раздолле:
Дзень-адодні клікалі
Рэчка, луг і поле!**

**З раніцы над плёсамі
Галасы луналі.
Срэбранымі ўсплёскамі
Зіхацелі хвалі.**

**Поўднямі усмяглымі
Сонца дапякала.
Крыкамі працяглымі
Піць прасіла каня.**

**І тады бухматыя
Хмары паязджалі —
З гулкімі раскатамі,
З шумнымі дажджамі.**

**А на ўзлесках сонечных,
Дзе жылі сініцы,
Сакаўною соладдзю
Вабілі суніцы.**

**А які з-за возера
Плыў, струменіў водар,
Як да стога звозілі
Копы на падводах!**

**А хіба забудзецца
Той дубок надрэчны,
Дзе так добра вудзяцца
Акунькі пад вечар.**

**Ціхімі напевамі
Калыхаўся жнівень,
Каласамі спелымі
Шалясцеў на ніве.**

**Гнуткія арэшыны
Нахіляў дадолу,
Покуль хто не ўцешаны —
Не пускаў дадому.**

**І ў садку прываблівым
Быў ніхто не лішні:
Ад цукроўкі-яблыні
Хлопчык бег да вішні,**

**Ад мядоўкі-грушыны
Да салодкай слівы...
Быў бясконца ўзрушаны
І казаў, шчаслівы:**

**— Ой, як слаўна, хораша
Беларускім летам!
Век душой не зморышся
На раздоллі гэтым!**

**Беларуская казка**




Былі ў аднаго чалавека тры сыны: два разумныя, а трэці — дурны.

Старэйшы сын, Сцяпан, умеў на скрыпцы іграць, сярэдні, Піліп, — на дудцы, а меншы, Іван, ні да чаго спрыту не меў: сядзеў у запечку ды лучынкі стругаў.

Вырасла ў таго чалавека ў садзе яблынька, а на ёй — залатыя яблыкі. Цешыцца бацька з яблыкаў, і сыны цешацца. Кожную раніцу ў сад ходзяць глядзець, ці цэлыя яны.

Праверылі гэтак аднаго разу — не хапае яблыка! І на другую раніцу не далічыліся яблыка...

Засумаваў бацька. „Відаць, — думае, — нейкі злодзей панадзіўся ў сад цягацца“. Кажа ён старэйшаму сыну, Сцяпану:

— Ідзі ты, сынку, пільнаваць яблыкі.

Прыставіў ўвечары Сцяпан да яблыні драбіны, залез на іх, сядзіць ды на скрыпцы іграе. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася, — ён і задрамаў. Раптам праз сон чуе: нешта над галавою моцна зашумела, залапатала. Прахапіўся Сцяпан, працёр вочы, — нідзе нікога няма, толькі аднаго яблыка не хапае...

Вярнуўся ён да бацькі маркотны.

— Не ўпільнаваў, — кажа, — злодзея: зноў адзін яблык сарваў...

На другую ноч сярэдні сын, Піліп, кажа:

— Пайду я пільнаваць. Быць гэта не можа, каб не ўпільнаваў!

Пайшоў ён, прымасціўся на драбінах ды выцінае сабе на дудцы розныя полечкі. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася, — ён і задрамаў. Раптам праз сон чуе: нешта над галавою моцна зашумела, залапатала. Пакуль прачнуўся — зноў аднаго яблыка няма!

Брыдка яму ў хату ісці, ды што зробіш: не дапільнаваў злодзея.

На трэці дзень меншы сын, Іван, кажа:

— Дрэнныя з вас, браты, вартаўнікі. Вось я пайду, то на чым ні стане, а прыпільную злодзея.

Усе толькі пасмяяліся з яго гаворкі: ат, ведама, — дурань!

Набраў Іван цэлы жмут лучынак і пайшоў на варту. Сядзіць на драбінах, стружа лучынкі ды песенькі пад нос сабе мармыча.

Пачало на дзень збірацца. Чуе Іван — нешта здалёку зашумела. Стаіўся ён, угледаецца. Аж бачыць — ляціць да яблыні вялікі залаты птах. Падляцеў блізка і хацеў яблык схапіць, а Іван злаўчыўся ды цап яго за доўгі хвост!

Вырваўся птах і паляцеў без яблыка. Глядзіць Іван, аж у руцэ тры залатыя пяры засталіся.

Прыбег ён у хату, пабудзіў усіх.

(Працяг на стар. 10)




**Адна з апошніх інфармацый: у Савецкім Саюзе ў лясах будуць разводзіць мурашак, закладваць новыя мурашнікі, бо больш мурашак — здаравей для лесу. Штучнае апыльванне лесу ад шкоднікаў — шкоднае і дрэвам, і ўсяму жывому ў лесе. Мурашкі — гэтыя працавітыя, чыеценькія істоткі — найлепшыя санітары і лекары лесу. Таму вельмі трэба ахоўваць мурашак і мурашнікі.**



Памятаю, як сёння. Стаяла лета. Я быў у Галадоўскім лесе. Убачыў разварушаны мурашнік. Сто метраў далей — другі, таксама разварушаны. Неападаль сядзелі дзеці. Каля іх сталі веласіпеды, а на разасланай плахце — яда.

— Гэта вы разбурылі мурашнікі? — спытаў я.

Адзін хлопчык паглядзеў на мяне і сказаў высоканапорна:

— А што? Мы нічога не зрабілі, толькі таўкнулі ў мурашнік кіём, а рыжыя мурашкі кусаюцца.

Дзеці тыя не разумелі, што сотні і тысячы ворагаў лесу будуць удзячны ім за знішчаныя мурашнікі.

Я чытаў у кніжцы — вучоныя даказвалі, што мурашкі цэнныя ахоўнікі лесу. У нас рыжыя лясныя мурашкі бачым толькі ў лясах. Ад мурашніка вядуць шматлікія ходы і калідоры, такія ж калідоры вядуць углыб мурашніка. Там знаходзяцца вялікія пакоі, галерэі, магазіны.

Лясныя мурашкі сапраўдныя ахоўнікі лесу. Яны з'ядаюць вусеняў, узбагачаюць глебу арганічнымі рэчывамі, рыюць ходы і спрыяюць паступленню вады ў глебу. Апрача гэтага яны і санітары дасканалыя. Як даказалі вучоныя, у адзін толькі мурашнік за лета мурашкі наносяць каля 8 мільёнаў розных насякомых.

Восенню мурашкі запаўзаюць у самыя глыбокія пакоі мурашніка і засынаюць на зіму. Калі прыгрэе сонейка, яны прачынаюцца і ўся тысячная армія зноў накіроўваецца на барацьбу з ворагамі лесу.

Беражыце, дзеці, мурашнікі, ахоўвайце іх! Мурашкі прыносяць чалавеку вялікую карысць!

**Андрэй Гаўрылюк**
страж́нік прыроды

(Працяг са стар. 9)




— Глядзіце, — кажа, — я злодзея дапільнаваў і тры залатыя пяры ў яго з хваста вырваў...

Паглядзелі браты і пачырванелі ад сораму, што не яны, а дурань словы даказаў. Узяла іх зайздрасць.

— Добра ж, — кажа старэйшы брат, — паеду я ў свет залатога птаха шукаць.

Узяў ён адно пяро для прыкметы, набраў харчоў, грошай на дарогу ды паехаў.

Мінула, можа, з паўгода, а ні Сцяпана, ні птаха няма. Тады сярэдні брат кажа да бацькі:

— Паеду хіба я шукаць залатога птаха. Можа, заадно і брата знайду.

Набраў і ён усялякіх прыпасаў на дарогу ды паехаў.

(Працяг будзе)

## Вясёлы куточак

— Дачушка, што ты робіш?

— Пішу пісьмо Тэні.

— Дык ты ж яе бачыш кожны дзень.

— А мы ўжо цэлы тыдзень не размаўляем.

*

Маці пытаецца ў сына:

— Чаму ты запрасіў на дзень нараджэння толькі гэтых двух хлопчыкаў?

— А яны не любяць торта, — адказаў сын.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Фехтавальшчыкі на рапірах. Бачым чатырох фехтавальшчыкаў на рапірах, толькі аднаго спераду, аднаго ззаду. Знайдзі правільныя пары!

## ПАСЛЯ „ЛАДЫ" — „САМАРА"

Вялікая фабрыка самаходаў Тальяцці над Волгай, тысячу кіламетраў на ўсход ад Масквы. Кожную мінуту з канвеера з'язджае тут тры машыны. Фабрыка дае палавіну ўсяе прадукцыі аўтамашын у СССР. Вядомыя ўсім дасканалыя „Лады" з гэтай фабрыкі.

А вось і новы самаход. Інжынеры фабрыкі апрацавалі мадэль новага, высокай якасці, самахода. Называецца „Самара". (Тальяцці — горад у Куйбышаўскай вобласці, а Куйбышаў — гэта даўнейшая Самара).

Як уся фабрыка у Тальяцці, так і новы самаход — прыклад бурлівага развіцця савецкай матарызацыі, асабліва ў апошнія гады.

### СКОРАГАВОРКА

Смажыў Саша шашлыкі,
Рак вырачваўся з ракі,
І кляшнёю смачна шмакаў:
„Мне б сюды такіх прысмакаў".

**Васіль Зуёнак**

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 80, кв. 49. Дзіна Трус, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 14, кв. 18. Аксана Кліменка, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 24. Оля Капшай, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 3. Іра Шырачэнка, 7 клас.

* * *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Б. Берута, 17, к. 2, кв. 2. Лена Пашкевіч, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 6. Наташа Дварэцкая, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 2. Рыма Маляўка, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 3. Света Шырачэнка, 6 клас.

РОДНАЯ ПРЫРОДА

## НОРЫ БАРСУКА

Можа хочаце ўбачыць норы барсука? Калі ласка. З настаўнікам зрабіце экскурсію. Будзе яна не толькі біялагічнай, але і геаграфічнай. Па добрай шашы Бельск-Гайнаўка, даедзем да пачатку сяла Галады. Насупраць драўлянага старога дома лясніцтва, на ўскрай лесу, ёсць добрая грунтовая лясная дарога. Вядзе яна да жвіроўкі Відава-Агароднікі, што на восі асфальтоўкі, да барсучай сцежкі, адлегласць 1042 м.

Барсучая дарожка вельмі прыемная, прыгодная для руху матацыклам ды веласіпедам. Добрым арыенцірам ёсць тут старая груша пры самай ляснОй дарозе. Яна мае на сабе ахоўную таблічку — помніка прыроды.

Ад шашы дайдзіце да гэтай грушы. А ад яе, калі пройдзеце яшчэ далей 18 м, з правага боку будзе шлях да барсучых нор. Ад ляснОй дарогі па барсучай сцежцы трэба прайсці 150 м і справа пакажацца вельмі малое ўзвышша, парослае сасновым лесам з бугаркамі нарытае зямлі ды норамі барсука.

Варта таксама пабачыць дубы — помнікі прыроды. Яны пры гэтай жа ляснОй дарозе — далей за грушай. Ёсць іх 6 штук. На іх прыбіты ахоўныя таблічкі. Хаця дубы маладыя, але таму, што пры дарозе, ды нікому не перашкаджаюць, іх прызнана помнікамі прыроды. Гэта зусім лагічна. Калі мы вырубаем усе маладыя дубы, дык адкуль тады возьмуцца старыя?

Ідзіце на экскурсію, пабачыце нашу працу стражнікаў аховы прыроды. Калі пажадаеце, сам пайду з вамі, усё вам выветлю.

Усё вам у жыцці спатрэбіцца. Чакаю на вашы прапановы, дарагія вучні!




Натураліст
(Інж. Барыслаў Ф. Рудкоўскі)

**Пятрусь Граніт**

### У ШКОЛУ

Адцвіў палетак:
Асенні час.
І сцежка дзетак
Зноў кліча ў клас.

Збірайце кніжкі,
Што ёсць у вас,
Лінейкі, сшыткі,
Ды ў добры час.

Ды зноў за парты,
Чытаць, пісаць.
Вучыцца ўпарта
І веды браць.



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

Пішa Табе беларуская дзяўчынка з гарадскога пасёлка Мядзель. Нейкі час таму ў нашым горадзе была галоўны рэдактар вашай газеты. Яна расказала нам, як жывуць і аб чым мараць беларускія школьнікі ў Польшчы. А яшчэ яна прапанавала нам весці перапіску з вашымі рабятамі.

І я рашыла навязаць такую перапіску. Мая кароткая біяграфія. Жыву і вучуся я ў Мядзелі, у 6 класе, мне 13 год. Вучуся на 4 і 5. Хачу як найбольш даведацца пра вашу краіну, вашы традыцыі і пра геройства вашых людзей.

Калі ласка, напішыце мне. Адрас: 222380, БССР, Мінская вобл., г.п. Мядзель, вул. Юбілейная, д. 19, кв., 81, Наташа Вершыла.



На родным падворку ў Катлоўцы. Мама Мар'я з сынкам прыехалі з Беластока падыхаць чыстым паветрам.

Фота А. Гаўрылюка


Адрас рэдакцыі „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1



— Дзіўна, разраднік з плавання, а тоне.
— А ў яго камень за пазухай.

## ЯК ВЫРАСЦІЦЬ ДЗІЦЯ

Пры паяўленні на свет вашага дзіцяці ні ў якім разе не кладзіце яго ў калыску. Гэтым вы акажаце мядзведжую паслугу мужу, свякрусе і свёкру, якія павінны яго няньчыць. Пакуль вы маладая, сачыце за сабой. Старайцеся захаваць фігуру, праводзьце час весела!

Калі дзіця падрасце і дасягне школьнага ўзросту, тады вы можаце пайсці разам з ім да яго настаўніка для павышэння яго адзнак або аблаяць, запалохаць выкладчыкаў з тым, каб яны не прыдзіраліся да вашага нашчадка. Затое, калі ён стане дарослым, пра яго скажуць ласкава — ён увесь у сваю маці!



# НІЎКА

## АПОШНІ РАЗ...

— Тата, дазвольце мне ажаніцца, — просіць дарослы сын.

— Ужо чацверты вечар ён просіць пра адно і тое ж! — гнеўна выгукнуў бацька. — Ты доўга яшчэ будзеш мучыць мяне гэтымі дурніцамі?

— Не. Сёння — апошні раз, бо Маня кажа, што ёй ужо абрыдла пятыя суткі сядзець пад замком у нашай клуні.

## ПАРАДАК

— Усё цяпер на сваім месцы, — сказала Марынка, пакладушы памытыя лыжкі ў шуфляду, плюшавага мядзведзіка — на канапу, а таткаў пояс — у дзённік старшага брацікa — вучня.

## ДАПАСВІЎСЯ

— Што ты тут робіш, хлопец?

— Авечку пасу.

— А ці не яе вось пад лесам ваўкі даядаюць?

— Не, гэта авечка дзядзькі Сымона. А нашу яны яшчэ раніцой з'елі.



## РЫБАК- НАСТАЎНІК

Рыбак-аматар, па прафесіі настаўнік, злавіўшы малюсенькага карасіка, зняў яго з кручка і кінуў у ваду:

— Хуценька дадому, і заўтра каб прыплыў з бацькамі!

## НАШЫ ДЗЕЦІ

Міхась звяртаецца да свайго сына:

— Апшукоўваць нядобра, сынок! Калі я быў малечкім, я ні разу не схлусіў!

— А з якога ж узросту ты пачаў, татка?

## КУЗЬМА-АДШЧАПЕНЕЦ

Глядзіць заўсёды коса,
Такі ён дзівак,
Сапе сярдзіта носам,
Усё яму не так...
Нядаўна ў клуб з'явіўся,
Там слухалі даклад,
Ён зморшчыўся, скрывіўся
І хуценька назад.
Паказваюць на працы:
— Рабі, сябрук, вось так!
А ён пачне спрачацца
І допускае брак.
Зноў з жонкай пасварыўся.
Шкадую я Кузьму:
Бо той не нарадзіўся,
Хто б дагадзіў яму.

**Захар Бірала**



**„Час працуе на мяне!" — сказаў аматар цыганіны.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да псіхіятра ў Шатландыі прыйшлі муж і жонка.

— Разумееце, доктар, — сказаў муж, — мы не можам дазволіць сабе раскошу лячыцца ў вас удваіх. Скажыце, калі ласка, што будзе танней: пачуццё перавагі маёй жонкі ці мой комплекс непаўнацэннасці?

*

Пачатковец скардзіцца жонцы:

— Жыццё стала зусім нязносным. Раней мне хоць вярталі рукапісы з якім-небудзь ветлівым лістам. А ў апошні раз я атрымаў свой рукапіс з запіскай: „Настолькі бяздарна, што канверт распячаталі памылкова".

## ДЫЯЛОГ У КУПЭ ВАГОНА

У купэ прыгараднага поезда трое: вучоны, садоўнік, і чалавек неакрэсленага занятку. Гаворка ідзе аб прызначэнні чалавека на зямлі.

Сказаў вучоны:

— Калі наш далёкі продак-малпа ўзяла палку, каб збіць плод з дрэва, яна стала чалавекам...

Садоўнік пагадзіўся з ім і сказаў сваё:

— А цяпер чалавек, які, праходзячы ля саду, бярэ палку, каб збіць плод, становіцца малпай...

— А што, вам шкада плода? — абурыўся пасажыр неакрэсленага занятку.

— Ды не. Чалавека шкада, — адказаў садоўнік.

**Лявон Кудла**

З „Весніка Задрыпоніі"

## ЭЎРЫКА!

Днямі вучоныя лінгвісты расшыфравалі надпісы, пакінутыя на тысячагадовым дубе ў нетрах Белавешчанскай пушчы. Цяпер увесь свет ведае, што тут пабываў Вася з Цюцькавіч.

## АБ'ЯВА

Сёння ад 19.00 і да першага выкліку міліцыі ў гарадскім парку танцы.



Сярод негаваркіх: „Заходзь памаўчаць, абмяняемся думкамі". — „А пра што маўчаць будзем?" — „Пра тое, што менш гаварыць трэба".

*

Сіла ілюзіі: калі нерухома назіраеш, як рухаецца іншы, пачынаеш рухацца сам, гэткім чынам удаецца нават спыніць таго, іншага.

*Марцін Коўзкі*



# Курёзы

## БЯСКОНЦАЕ РЭХА

Усе, хто падарожнічае па Ірландыі, захапляюцца прыгажосцямі тутэйшай прыроды. У гарах, размешчаных на поўдні выспы, увагу турыстаў прыцягвае магутнае рэха. Дастаткова ўзняцца, напрыклад, на вяршыню Карантуіла ў раёне возера Лох-Лейн і моцна крыкнуць, як рэха паўторыць гэты крык да ста разоў.




## З ЖЫЦЦЯ ВЯЛІКІХ

Французскі філосаф і пісьменнік Вальтэр, гасцюючы ў Фрыдрыха II у яго маёнтку Сансусі, плаваў з каралём на лодцы. Заўважыўшы, што праз шчыліны ў лодку прасочваецца вада, Вальтэр паспешліва выскачыў на бераг.

— Вы так баіцеся за сваё жыццё?

— Вядома! Каралёў на свеце шмат, а Вальтэр — адзін.



**Калі вы лічыце, што да вас адносяцца не так, як да ўсіх, значыць, вы нічым не адрозніваецеся ад іншых.**